ШЧЫРА

# Ніл Сымонавіч, доўгага жыцця!

***Хачу са старонак "Народнай Волі" павіншаваць з Днём нараджэння народнага паэта Беларусі Ніла Сымонавіча Гілевіча!***

Амаль усе маці цяперашніх людзей з ужо старэйшага пакалення размаўлялі на сваёй роднай, беларускай, мове. І тады панавала добразычлівасць, сардэчнасць. Скасаванне шлюбу было рэдкай з'явай і выглядала як нейкая недарэчнасць, не тое што зараз — 50 працэнтаў! Не назіралася і глабальнага п'янства, не было мацяршчыны ў тых, хто гаварыў па-беларуску: брыдкія словы былі невядомыя нашым папярэднікам! Наша мова была сапраўды мовай народа.

Цяпер насельніцтва Беларусі намаганнямі ўлады шпарка пераходзіць на рускую мову. Хоць у большасці гэта — трасянка. І сама прырода беларуса, яго характар навідавоку мяняюцца ў горшы бок. Мы сталі больш панурымі, нядобразычлівымі, агрэсіўнымі. Знікла прыветная ўсмешка з твару. І наогул беларус стаў больш закрытым у сабе, менш актыўным у грамадскім жыцці. Ад безвыходнасці і безабароннасці, беззаконня і беспрасвецця беларусы ўсё больш прыкладаюцца да чаркі, а на скварку ўжо часам і не хапае. Дэградацыі грамадства ў сацыяльна-культурнай галіне, безумоўна, спрыяе масавы пераход з роднай мовы на іншаземную...



Выбачайце, калі ласка, за мае "тэарэтычныя" развагі. Скажаце: а пры чым тут Ніл Гілевіч? А вельмі, вельмі пры чым. Дзякуй Богу, што такія, як ён, адданыя Бацькаўшчыне таленавітыя дзеячы культуры ўсімі сіламі змагаюцца за тое, каб Беларусь адрадзілася, квітнела і ішла ў будучыню з роднай мовай. Яна ж прасвятляе і ўзвышае чалавека.

І Вашы, дарагі Ніл Сымонавіч, гарачыя заклікі да зберажэння роднай, беларускай мовы знаходзяць водгук у сэрцы цывілізаванага беларуса. Новае пакаленне ўсё ж развіваецца, не стаіць на месцы. Працэс гэты не такі хуткі, як хацелася б, але ўжо яскрава бачна: беларуская мова, як і нацыя, ніколі не знікне. І ў гэтай неабыякавасці грамадзян (у першую чаргу лепшай часткі моладзі) добры знак. Усё больш валоданне беларускай мовай робіцца прыкметай інтэлігентнасці, адукаванасці, дабрыні і высокай агульначалавечай культуры.

Ад усяго сэрца жадаю Вам, дарагі Ніл Сымонавіч, доўгага жыцця, моцнага здароўя, новых твораў і новага плёну ў Вашай нястомнай, шматграннай і шматгадовай дзейнасці на карысць беларускай нацыі. Шчыра віншую Вас з Днём нараджэння!

Жыве Беларусь!

**Пётр КОЛАСАЎ,**
***жыхар пас.Цагельны Гомельскай вобласці.***

**АД РЭДАКЦЫІ**

*Калектыў "Народнай Волі" далучаецца да віншаванняў нашаму дарагому сябру — народнаму паэту Беларусі* ***Нілу Сымонавічу Гілевічу*** *з нагоды яго 82-годдзя.*

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

## Я хаджу, закаханы...

*Я хаджу, закаханы у твае краявіды,*
*І шапчу, як прызнанне: о, мой край дарагі!*
*Зноў нясу табе ў споведзь і трывогі, і крыўды,*
*І надзеі, і ўцехі, і любоў, і грахі...*

*Пасля доўгіх расстанняў і далёкіх вандровак*
*Я вярнуся навекі ў засень клёнаў тваіх.*
*Толькі з роднага долу, толькі ў роднай дуброве —*
*Як не дрэвам, хоць кветкай прарасту для жывых.*

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО СПАЖЫЎЦОЎ

*На пытанні чытачоў "Народнай Волі" адказвае намеснік старшыні грамадскага аб'яднання "Беларускае таварыства абароны спажыўцоў" Васіль ВАЛАСЮК.*

### Па новай ці па старой цане павінны вяртаць грошы?

*За час правядзення экспертызы тавар падаражэў. Вяртанне грошай адбываецца ўжо па новай цане ці па старой? Калі па новай, то на што спаслацца?*

**Сяргей ГУШЧА, Светлагорск.**

— Па новай. Спаслацца можаце на Закон аб абароне правоў спажыўцоў, які ўступіў у сілу 11 жніўня 2012 года.

### Мяне падмануў прадавец

*Калі я купляў халадзільнік, то прадавец мяне падмануў. Сказаў, што дадому тэхніку прывязуць бясплатна, заплаціць трэба толькі за пад'ём да кватэры. Але ў той дзень, калі халадзільнік павінны былі прывезці, мне паведамілі, што дастаўка будзе платная. Ці магу я адмовіцца ад пакупкі?*

**Віктар ВАРАНЕЦ, Магілёў.**

— Можаце, безумоўна.

### Гул ад мясарубкі быў, як ад самалёта

*Набылі мясарубку. Вырашылі паглядзець дома, як яна працуе. Калі ўключылі, то гул стаяў такі, быццам гэта самалёт, а не мясарубка. Ды і са сваімі непасрэднымі функцыямі тэхніка не справілася. Звычайнае мяса курыцы не змагла перамалоць. Давялося разбіраць і пастаянна чысціць. Падобная мясарубка ёсць у нашых знаёмых, але ж тая нармальна працуе. Ці можам мы, зыходзячы з таго, што апісалі, вярнуць тэхніку назад?*

**Сям'я МІХАЛЬЧУК, Салігорскі раён.**

— Так. Магазін павінен замяніць тавар ці вярнуць грошы. Калі ўзнікне спрэчка, неабходна правесці экспертызу і прадаставіць акт тэхнічнай экспертызы. Гэтым займаюцца гарантыйныя майстэрні.

### Купіў тэлевізар, а ён не падабаецца

*Ці магу я абмяняць тэлевізар на больш дарагі? Калі так, дык у які тэрмін пасля пакупкі? Той, што купіў, мне не падабаецца.*

**Дзмітрый РАКАВЕЦ, Рэчыца.**

— Не можаце. Абмен магчымы толькі ў тым выпадку, калі знойдуцца істотныя недахопы.

### Ці можна абмяняць залаты ланцужок?

*Набыла залаты ланцужок, але не прымерыла ў магазіне. Дома аказалася, што ён мне кароткі. Хацела б памяняць на больш доўгі. Ці можна гэта зрабіць?*

**Алена ПЕТРЫКАВА, Жлобін.**

— Залатыя вырабы абмяняць нельга.

### Суд ды справа

*У які суд неабходна звяртацца, калі парушаны мае правы як спажыўца? Па месцы маёй прапіскі ці па месцы знаходжання магазіна, дзе мяне падманулі?*

**Віктар ЮРЭВІЧ, Ваўкавыск.**

— Звычайная практыка такая, што праблема вырашаецца па месцы пражывання спажыўца.

### Дзверы месяц не вяртаюць з гарантыйнага рамонту



*Мы купілі шкаф-купэ ў магазіне мэблі. Праз два месяцы прагнуліся адны дзверы. Прадавец забраў на гарантыйны рамонт і не вяртае ўжо каля месяца. У якія тэрміны ён абавязаны вярнуць адрамантаваныя дзверы?*

**Святлана САГАНОВІЧ, г. Стоўбцы.**

— Па законе дзверы з гарантыйнага рамонту вам павінны вярнуць на працягу 14 дзён.

### Душавая кабіна не падыходзіць па памерах

*Праз інтэрнэт-магазін заказала душавую кабіну. Пасля таго як яе прывезлі, аказалася, што яна не падыходзіць мне па габарытах. Ці магу я яе вярнуць назад і ў які тэрмін?*

**Вікторыя СЛЯПЦОВА, Мінск.**

— Можаце вярнуць на працягу 14 дзён.

### Згарэла бытавая тэхніка...

*Непаладкі ў элетрасетцы прывялі да таго, што ў мяне згарэла бытавая тэхніка. Што трэба зараз мне зрабіць, каб кампенсавалі страты?*

**Святлана АДАМЧЫК, Брэст.**

— Пытанне вельмі складанае і працаёмкае. Неабходна звярнуцца ў майстэрню на прадмет экспертызы вашай сапсаванай тэхнікі, трэба даведацца аб зафіксаваных перападах электраэнергіі... Але я вам лепш параіў бы звярнуцца да юрыстаў Таварыства абароны спажыўцоў.

ПРИНЦИПИАЛЬНЫЙ ВЗГЛЯД

# Кормилица или... кормушка?



В очередной раз перечитала выступление А.Лукашенко 5 августа 2013 года на совещании по вопросу развития научной сферы Беларуси. Предлагаемые варианты реформирования белорусской науки мои опасения так и не развеяли. Остались те же вопросы.

Создание компактной научной структуры неизбежно потребует сокращения числа сотрудников, что давно нужно было сделать, чтобы поднять зарплату оставшимся и не допустить бегства квалифицированных кадров. Но кто в таком случае будет оценивать эффективность работы исследователя? Те две трети работников, что имеют к науке весьма опосредованное отношение, да раздутый управленческий аппарат? И по какому критерию будут оценивать успехи работающего исследователя — по его годовой зарплате или по сложности поставленных научных задач и эффективности их решения? Ведь с точки зрения логики здравого смысла доходы ученого, как и любого другого работника, являются показателем его квалификации, профессиональной пригодности и востребованности, хотя у нас гораздо чаще встречается обратная зависимость. И поскольку все вопросы грядущих преобразований планируется решать при тщательном, всестороннем и ***гласном*** обсуждении, такой подход можно только приветствовать и включиться в дискуссию.

В моей памяти невольно всплывает небольшая перепалка, возникшая несколько лет назад между мной и одним из наших многочисленных институтских начальников. Я сказала тогда, что ради будущего нашего научного учреждения было бы неплохо уделять больше внимания подготовке квалифицированных кадров, что само по себе невозможно без хорошей фундаментальной базы и ее логического продолжения — первоклассных статей для рейтинговых журналов, а также защиты настоящих, а не липовых, сомнительного качества диссертаций. На мое замечание последовал ошеломляющий ответ: нам нужны деньги, а не ваши замечательные работы и диссертации. Между тем фундаментальные исследования, без которых человек не может состояться как ученый, лежат в основе новаторских разработок и прорывных технологий, о которых нам сегодня приходится только мечтать. Довольно странно, что чиновник при столь высокой должности, да еще и доктор наук, не усвоил эту азбучную истину. С учетом последствий и перспектив деньги все-таки лучше не выпрашивать, чтобы потом "правильно" поделить, а зарабатывать, что в нашем деле без знаний и соответствующей подготовки делать невозможно, если хочешь остаться честным перед собой, коллегами и научным сообществом.

Прошло совсем немного времени. Сегодня очевидно, что некоторые важнейшие направления неорганической химии из отечественной науки просто исчезли. Не думаю, что мы сможем когда-нибудь их возродить. Некому этим заниматься: одни слишком старые и немощные, другие в погоне за деньгами и новыми высотами на служебной лестнице свои знания давно растеряли, а некоторым так и терять было нечего, третьим все "по барабану", а четвертые просто отошли в сторону, чтобы не испытывать ежедневный стресс от созерцания происходящего. Учить некого и некому. Умные, но безродные почти все разбежались, а те, что с "нужными" фамилиями, не обязательно талантливы, да и жизнь под крылышком со всеми удобствами не приучила их чересчур напрягаться или рвать пуп за идею, в том числе научную. А тут "прорыв". Вынь да положи. А что положить?

В прошлом году мне пришлось столкнуться с тремя направлениями исследований, которые наверху вполне могли озвучиваться если не как прорывные, то как "пионерские" точно. При этом два проекта не могли быть таковыми по определению из-за вопиющих профессиональных ошибок, заложенных уже в самой идее. К счастью, "освоить" щедрое финансирование удалось только в одном случае, да и то не полностью. Абсурдный проект закрыт, и слава Богу — лучше обойтись меньшими потерями. Почему все обошлось без шума и пыли, можно только догадываться.

Во втором случае потенциальный спонсор, наученный горьким опытом, не стал принимать на веру слова "продвинутых" ученых, включил свои извилины и избежал финансовых потерь. Кстати, слабым местом любого госпредприятия является отсутствие эксперта или хотя бы возможности нанимать его при необходимости. Налаженное производство не требует от руководящего и обслуживающего персонала такого уровня подготовки, который позволил бы отслеживать и отсекать явные прохиндиады, даже если они исходят от человека честного, но где-то просчитавшегося в своих задумках. Ошибка — не беда, все люди порой ошибаются. Страшно, когда ошибки в работе утаиваются, замалчиваются или преподносятся как научное достижение со всем набором вытекающих отсюда благ. Так и до катастрофы рукой подать: ***плохая химия — это не плохой стишок***.

А вот третий проект действительно ***мог стать прорывным*** и помочь белорусскому флагману решить некоторые сложные вопросы, возникшие в связи с вводом в эксплуатацию нового химического производства. Даже если бы нынешний уровень техники не позволил воплотить идею в жизнь прямо сейчас, сделали бы это лет через пять-десять. Главное — грамотное химическое решение, а инженеры и технологи со временем нашли бы способ организовать промышленный процесс. Да и сама работа над проектом позволила бы значительно поднять уровень подготовки кадров, чего нам сегодня катастрофически не хватает, особенно когда речь идет об инновациях.

Но и тут не срослось. Заказчик вынужден был остановить и эту работу, снова пустив на ветер огромные деньги.

Причина случившегося банальна и давно известна: "сливки" только для "своих". "Постылым" достаточно чести "поднять-подтереть" или найти верное решение, если вдруг что-то не заладится, — участь бесправных, часто безымянных и дешевых обитателей нижних этажей пирамиды белорусской науки вне зависимости от того, сколько у них пядей во лбу.

Прорывная несостоявшаяся тема была мне родненькой. Но едва заказчик подписал договор с исполнителем, начальство предупредило меня, что в моих услугах не нуждается. Столь разнузданное откровение заставило меня задавать такие же откровенные вопросы, получая на них соответствующие ответы. Содержание разговора озвучивать не буду. Ограничусь тем, что пожелала успеха всезнайкам, давно потерявшим остатки страха и ощущение реальности.

К сожалению, доверчивый заказчик не потрудился поинтересоваться научными публикациями "избранных" исполнителей. А ведь достаточно было ознакомиться с содержанием их статей по требуемой или близкой тематике, обратить внимание на список авторов, научную новизну выполненных работ и их сложность, лучше сказать, простоту. Смотришь, и появился бы повод задуматься.

Какого-либо конкурса даже среди своих потенциальных исполнителей не было. Как и направленного им уведомления о предстоящей ***прорывной*** работе с обратным ответом и подписью адресата, что он ознакомлен, согласен или отказывается по каким-то причинам принимать участие в работе над данным проектом. Впрочем, кому сегодня нужны эти глупости, когда процедура "освоения" денег давно отработана?

Ошибки пошли с первых шагов и первых страниц отчета: "перепутали" химическую формулу полезной компоненты фосфатного сырья с синтетическим продуктом, выпускаемым в небольших количествах для фармакологии. Соответственно, успешно и без особого труда "решили" проблему утилизации весьма токсичных фтористых выбросов — головной боли всех фосфорных заводов. Изначально неверно выбранная цель наряду с грубыми логическими и прочими ошибками, самоуверенность, привычка к шапкозакидательству и банальная человеческая жадность породили очередную дорогостоящую "пустышку". А ведь исполнителям достаточно было расписать все протекающие химические процессы в соответствии с предложенной ими схемой переработки сырья и привести "подобные слагаемые", как того требует химическая термодинамика (раздел физической химии), чтобы увидеть тупик в конце своего "пионерского" пути. Ведь успешное решение для химика включает анализ состояния исходных веществ и конечных продуктов реакции. А путь реакции — это уже рентабельность производства и выбор, который определяют технологи, инженеры и экономисты. От силы пару часов работы, зато сохранили бы время, деньги и не вводили в заблуждение не слишком осведомленного заказчика.

Когда исполнители "освоили" львиную долю финансирования, начальник, ранее известивший меня о моей полной бесполезности, предложил мне подключиться. Отказалась. Сделать верный выбор помог богатый опыт удобного и почти дармового спасательного круга. Не забыла также истерику "нужных" исполнителей, случившуюся незадолго до подписания договора с заказчиком, и посыпавшиеся на мою голову обвинения в будущем плагиате.

Выбить засевшего внутри себя исследователя сложно: охотник, куда от этого денешься. Бюджетного финансирования у меня не было — уволили в начале 2012 года за нелояльность к администрации. Зарплату платил мне наш флагман и за другую услугу, но фосфатную тематику я не бросила. Как только появлялось свободное время, работала в лаборатории или библиотеке. На основные вопросы ответ нашла быстро. А вот с достаточно эффективной и безотходной технологией пришлось повозиться. На сегодняшний день пробная партия *новой марки суперфосфата* уже прошла первый этап агрохимических испытаний и показала высокую эффективность при выращивании злаковых культур. Для них в первую очередь это удобрение и предназначалось в силу его специфического состава. К счастью, не всех в этой жизни интересуют только деньги, и у меня нашлись спутники, которые помогли довести начатую работу до логического завершения. Как химик я справилась с поставленной задачей, и это для меня важнее всего. Отличный финал многолетней работы.

Я предложила представителю заказчика вернуть выброшенные на ветер деньги и попытаться решить проблему, согласовывая каждый шаг и без таких умопомрачительных затрат, ведь головное предприятие строится и искать выход придется. Но инновационный проект, кажется, начал сдуваться. И все идет к тому, что заказчику придется терпеливо ждать, когда появится заморская технология с возможностью купить ее втридорога. Ну а "успешные" разработчики, судя по всему, продолжат хождение отработанными маршрутами, предлагая будущим спонсорам новые "пионерские" проекты. Главное, чтобы за них вовремя и хорошо платили.

Можно собирать совещания и высказывать массу разумных идей, можно ругать больших и малых начальников или что-то перестраивать, можно еще много чего делать. Однако, пока не избавимся от вопиющей безответственности исполнителей и шикарных выплат неведомо за что, пока не появится ***честная конкуренция*** с жестким контролем затрат и не будут соблюдаться хотя бы написанные на бумаге правила, все самые лучшие намерения выйдут паром в свисток, а белорусская наука так и останется удобной кормушкой для тех, кто не привык обременять себя упорным трудом и угрызениями совести.

**Наталья ШУЛЬГА,**
**кандидат химических наук, бывший старший научный сотрудник.**

ДЕЛА ЖИТЕЙСКИЕ

# Зачем сносят мой сарай?

Я — вдова ветерана ВОВ, ветеран труда, инвалид II группы, проживаю по ул.Советской в Бресте с 1967 года. В связи с тем что подвала в доме нет, во дворе еще в 1930-е годы был построен сарай, в котором жильцы дома оборудовали подвалы для хранения заготовленных на зиму продуктов питания.

Из 27 сараев 97% приватизировано и являются личной собственностью жильцов дома.

В 2012 году нам стало известно, что во дворе нашего дома частное предприятие собирается строить торговый центр. С этого времени кто-то регулярно стал поджигать наши сараи. Последний поджог произошел в июле этого года.

Поскольку, с моей точки зрения, никаких мер к поиску и установлению лиц, совершивших поджог, принято не было, в августе я обратилась с заявлением к президенту с просьбой помочь в восстановлении сараев.

17 сентября получила ответ за подписью заместителя председателя Брестского горисполкома Н.С.Якубовского, из которого узнала, что 28 августа (то есть после моего обращения к президенту) принято решение о сносе якобы аварийных сараев.

Хочется спросить у чиновника Якубовского: почему втайне от жильцов дома принимаются подобные решения? Почему не было проведено собрание жильцов дома? Почему не было получено согласие жильцов дома на снос сараев, которые являются их частной собственностью? Почему не получено согласие жильцов на строительство во дворе частного торгового центра?

Принимая решение о сносе сараев, построенных в 1930-е годы XX столетия из добротного кирпича и благоустроенных жильцами дома, чиновники горисполкома освобождают дельцов частного бизнеса от выплаты жильцам дома компенсации за их уничтоженную частную собственность.

Тогда о каком правовом государстве можно вести разговор, если чиновники, в обязанность которых входит контроль за соблюдением законов Республики Беларусь, игнорируют их?

**С уважением —**

**Евгения Игнатьевна ТРЕПУТИНА.**

**ИЗ ОФИЦИАЛЬНОГО ОТВЕТА**

*"Согласно протоколу комиссии №13 от 28 августа 2013 года во избежание чрезвычайной ситуации, связанной с обрушением строительных конструкций многосекционных сараев КУП "ЖРЭУ г.Бреста" поручено произвести снос аварийных сараев, расположенных по адресу ул.Советская, 17. Восстановление Вашего сарая собственными силами невозможно в связи с принятием решения об их сносе. Строительство сараев (других построек) без получения разрешения на строительство от администрации района или Брестского горисполкома запрещено".*

**Н.С.ЯКУБОВСКИЙ,**
**заместитель председателя Брестского горисполкома.**

ИЗ ПОЧТЫ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА

## *Приношу извинения...*

Уважаемый Иосиф Павлович!

В газете "Народная Воля" за 3 сентября была опубликована моя заметка под названием "Горка і сорамна ад такіх рэстаўрацый". Под заметкой были две фотографии: одна — моя, а другая — Д.В.Саврицкого.

В связи с этим прошу в дополнение дать несколько строк следующего содержания:

*"Я, Ю.В.Клеванец, автор заметки "Горка і сорамна ад такіх рэстаўрацый", приношу извинения Д.В.Саврицкому за использование в качестве иллюстрации к этой заметке его фотографии без разрешения автора."*

**Ю.В.КЛЕВАНЕЦ.**

ВОСТРАЯ ТЭМА

# Змова супраць мовы?

*Юрыст Вольга Кавалькова і падумаць не магла, што сціплае жаданне ўладкаваць пляменніцу ў беларускамоўную групу ў дзіцячым садку зробіць яе ў вачах чыноўнікаў скандалісткай. "Нікому такія групы ў Заводскім раёне Мінска не патрэбны", — даводзяць адказныя таварышы, а жанчына шчыра не можа зразумець, што ж такога крымінальнага ў яе памкненні.*

*Падобных гісторый па ўсёй Беларусі за гады незалежнасці набралася нямала. Бо садкі, школы і ўніверсітэты ў большасці "размаўляюць" па-руску...*

*Як пераламаць лік на карысць беларускай мовы і дамагчыся выканання сваіх правоў? І ці заўжды прычына паraз у няспрытных чыноўніках?*

*Ва ўсім гэтым спрабавала разабрацца "Народная Воля".*

## Па-беларуску? Вучыцеся дома!

**Вольга Кавалькова** — юрыст, скончыла Акадэмію МУС і была ўпэўнена: пастаяць за сябе зможа.

*— Мая сястра папрасіла дапамагчы. Шукалі беларускамоўную групу ў садку недалёка ад дома,* — распавядае Вольга. *— Адразу накіраваліся ў аддзел дашкольнай адукацыі Заводскага раёна Мінска. Мы жывём у Шабанах, і там няма ніводнай беларускамоўнай групы. Значыць, трэба стварыць. Але нечакана мы атрымалі адказ у стылі "шмат хочаце". Усё, што паабяцалі, — правесці апытанне сярод бацькоў і высветліць, ці ёсць жадаючыя далучыцца да нашай ініцыятывы. Пакуль чакалі вынікаў апытання, вырашылі самастойна прайсціся па садках. Аказалася, што там зусім не супраць вучыць дзетак па-беларуску, але ёсць праблемы. Напрыклад, не хапае кадраў. Нават рускамоўных.*

*Праз два тыдні прыйшоў адказ з упраўлення адукацыі. Заўважу, што на нашу беларускамоўную заяву далі рускамоўную справаздачу. Але не гэта галоўнае. Згодна з вынікамі апытання, ва ўсіх Шабанах няма ніводнага жадаючага навучаць дзіця на беларускай мове. У якасці суцяшальнага прыза далучылі спіс садкоў, куды можна звярнуцца. Вось толькі ў большасці з іх увогуле няма беларускіх груп, а тыя, што ёсць, не падыходзяць нам па ўзросце. Прыйшлося зноўку ісці на прыём. І размова ўжо атрымалася гарачай. Прыйшла па-добраму, параіцца і нават прапанаваць сваю дапамогу. У рэшце рэшт мне параілі не аддаваць дзіця ў садок і выхоўваць яго дома! Потым чыноўніца проста закрыла рукамі вушы і перастала мяне слухаць, сказаўшы: маўляў, адзінае, што вам трэба, — скандал".*



Вольга прызнаецца, што такое стаўленне толькі замацавала яе жаданне дамагчыся свайго. Тым больш што патрэба ў беларускамоўным навучанні ёсць не толькі ў яе. Па абвестцы, што Вольга і яе сябры размясцілі ў інтэрнэце, літаральна за пару дзён патэлефанавалі з дзясятак мінчан.

*— Нават рускамоўныя бацькі жадаюць аддаць сваіх дзяцей у беларускамоўныя групы,* — прыводзіць прыклады юрыст. *— У мяне пыталіся, як гэта зрабіць, бо чыноўнікі проста даюць накіраванне ў садок без уліку тваіх пажаданняў. Такое стаўленне пужае. Думаеш: ну зможам мы дамагчыся адкрыцця беларускамоўнай групы, але ці не адаб'ецца гэта на дзіцяці? Для многіх бацькоў гэта стрымліваючы фактар...*

У бліжэйшы час Вольга збіраецца запісацца на прыём да чыноўнікаў Мінгарвыканкама. Магчыма, яны дапамогуць разабрацца ў праблеме, якую адфутболілі ў раённым упраўленні адукацыі. Тым больш што патрабаванні спадарыні Кавальковай цалкам абгрунтаваныя, яна толькі просіць выконваць закон.

## Расшукваюцца выхавацелькі!

У мінулым годзе ў часопісе "Пралеска" быў змешчаны інструкцыйна-метадычны ліст, з якога вынікае: калі бацькі пісьмова апісалі сваё жаданне вывучаць дзяцей на беларускай мове, гэта патрабаванне павінна быць выканана, калі нават не набіраецца група.

*— Супрацоўнікі садка абавязаны нейкім чынам забяспечыць навучанне па-беларуску,* — адзначае філолаг і выхавацель дзіцячага садка **Юлія Бажок**. *— Вось такая законная рэкамендацыя.*



Юлія трапіла на працу ў дзіцячы садок па размеркаванні, нават нягледзячы на тое, што скончыла філфак БДУ, дзе ўвогуле не вучаць рабоце з дашкалятамі. Працаваць давялося ў беларускамоўным садку, дзе асабліва востра адчуваецца недахоп кадраў.

*— Выхавацеляў не хапае, пастаянна нейкія замены,* — апісвае рабочыя рэаліі дзяўчына. *— І добра, калі хоць 50% навучання адбываецца па-беларуску. Адзначу, што мой садок — беларускамоўны ад пачатку. Але дзеткі збольшага тых бацькоў, што проста жывуць побач. Сем'і звычайныя, а ў некаторых бывае нават і негатыўнае стаўленне да мовы. Асноўная частка дзяцей — з рускамоўнага асяродку. Але да канца года ўсе дзеткі звычайна вучацца адказваць па-беларуску.*

*Ёсць у нас якая-ніякая матэрыяльная база. Праўда, не ведаю, якіх яна гадоў. Можа, 1990-х. Гэта такі куфэрачак, дзе змешчаны алфавіт ды паказаны спалучэнні гукаў і іншыя асаблівасці беларускай мовы. Але гэта, відаць, усё, што ёсць. І дзе ўзяць новае, я не ведаю.*

Умовы, што апісвае Юлія, далёка не самыя горшыя. **Настасся** некалькі гадоў працавала ў дзіцячым садку ў рэгіёне і ведае, што часам навучанне на беларускай мове праходзіць на чыстым энтузіязме выхавацеля.



*— Я працавала ў дзіцячым садку шэсць гадоў,* — узгадвае Настасся. *— Магу сказаць, што беларускамоўным групам проста катастрафічна не хапала метадычнага матэрыялу. Даводзілася шукаць падыходзячую літаратуру і падганяць канспекты пад малодшыя групы.*

*Пры гэтым любоў да роднага ўсё роўна намагаліся выхаваць. Нават калі група была не беларускамоўнай, кожную пятніцу ладзілі беларускі дзень. І ўвечары дзеці развітваліся з намі па-беларуску. На жаль, не ўсе бацькі маглі пахваліцца тым жа...*

*Але ўсё ж такі самая вялікая праблема для ўсіх садкоў — цякучка кадраў. Нават калі размяркоўваюць маладых спецыялістаў, гэта не больш як на 2 гады. Ды і заробак вельмі маленькі. А яшчэ раздражняе пісаніна. Бюракратызм страшэнны! Калі я звальнялася і пераносіла папкі са сваімі пісулькамі, мая мама, якая працуе галоўным бухгалтарам, прызналася, што ў яе архіве папак менш".*

## Каму патрэбны скандал?

Старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы" **Алег Трусаў** меў зносіны з многімі людзьмі, што змагаліся за навучанне на роднай мове. І вопыт яго быў не заўжды пазітыўным.

*— Ёсць людзі, якія ўзнімаюць шум не для таго, каб чаго-небудзь дасягнуць,* — выказаўся Алег Анатольевіч. *— Вы ведаеце пра Ялінку з Магілёва. Ляманту стаіць шмат, але мэта — лямант, а не тое, каб быў створаны паўнавартасны беларускамоўны клас. І па сённяшні дзень дзяўчынка вучыцца адна. Пры гэтым я не сумняваюся, што жыхары Магілёва на 99,9% і не ведаюць ні пра тую Ялінку, ні пра той клас.*



*Заўжды ёсць два варыянты: рабіць, каб было, і рабіць, каб не было, але каб была рэклама і тваё імя хадзіла ў інтэрнэце. Таму мы падтрымліваем перш-наперш тых, хто жадае рабіць нешта канкрэтнае. І практыка паказвае, што дастаткова сабраць заявы, напрыклад, ад дзесяці сямей, каб клас ці група былі створаны.*

*Шкада, што моладзь, якая прыходзіць да нас з пытаннямі аб стварэнні беларускамоўных садкоў, школ, універсітэтаў, застаецца з намі ненадоўга. Мы і бацькоўскі камітэт стварылі, ён пазбіраўся некалькі месяцаў — і вось ужо даўно мы нікога тут не бачым.*

Кожны год паўтараецца адна і тая ж гісторыя: людзі змагаюцца за адкрыццё групы ці класа, дамагаюцца мэты і... сыходзяць з "фронту".

*— Неарганізаванасць бацькоў — вялікая праблема*, — лічыць сябра ТБМ, спецыяліст па пытаннях адукацыі **Вікторыя Радзіеўская**. *— З праблемай змагаюцца стыхійна. Не перадаецца, марнуецца вопыт. Але, на шчасце, пачалі з'яўляцца бацькі, якія на будучыню клапоцяцца аб месцы ў садку. Гэта карысна, каб тэрмінова можна было набраць патрэбную колькасць зацікаўленых у беларускамоўным навучанні бацькоў і дзяцей.*

Часам беларускім татам і мамам не хапае канструктыўнасці мыслення. Жаданне ёсць, але як яго рэалізаваць, многія не ведаюць. Дзейнічаць пачынаюць без алгарытму і плана, таму і кідаюць справу на самым пачатку.



*— Перад тым як патрабаваць стварыць беларускамоўную групу ці клас, лепш сабраць тую самую групу,* — падкрэсліла намесніца старшыні ГА "Таварыства беларускай мовы" **Алена Анісім**. *— Трэба ўпэўніцца, што адукацыя будзе якаснай і сапраўды беларускай. Якаснай у першую чаргу ў плане прафесійнага падыходу выхавацеля да дзяцей. Бо гэта і ёсць наша мэта — даць дзецям якаснае выхаванне і ў плане мовы, і ў педагагічным кірунку.*

## Размаўляй са мной па-беларуску!

Як жа раз і назаўжды вырашыць праблему мовы ў навучальных установах? Відавочна, рэцэпт не такі просты і кожны мае свой погляд на пытанне.

*— Было б добра, калі б у форме, якую бацькі запаўняюць, калі становяцца на чаргу ў садок, можна было адразу пазначыць, у якую групу яны хочуць аддаць сваіх дзяцей,* — хоча прапанаваць чыноўнікам новы від маніторынгу **Вольга Кавалькова**. *— Мне падаецца, гэта нашмат спрасціла б працу. Ва ўпраўленнях адукацыі загадзя ведалі б, што на гэтай вуліцы ёсць, скажам, сем сем'яў, якім праз тры гады спатрэбіцца беларускамоўная група. І вырашалі б праблему паступова, а не закрывалі вушы.*

А вось прыватным садкам і хатнім групам даверу няма. Беларускія бацькі на дробязі не разменьваюцца: калі мяняць, дык усю сістэму.

*— Атрымліваецца, Міністэрства адукацыі нічога не будзе рабіць?!* — не пагаджаецца Вольга. *— Мы хочам вырашаць пытанне на іншым узроўні. Каб дзяржава ўздельнічала, папулярызавала мову і сама заклікала дзяцей у садкі.*

Такую пазіцыю падтрымлівае і эксперт! На карку бацькоў у чыноўнікаў не атрымаецца ўехаць у рай.

*— Трэба прымусіць чыноўнікаў працаваць,* — заяўляе спадарыня Радзіеўская. *— Чаму мы мусім гэтым займацца? Трэба, каб людзі працавалі і проста выконвалі тое, што прапісана ў законе. А яшчэ важны момант — бацькі нашы таксама глядзяць адзін на аднаго. Адчынілася новая група, павёў туды сусед сваё дзіця. Ага! А можа, там спецыялісты лепшыя ці яшчэ што. І аддасць чалавек і сваё дзіця ў новую групу. Не так гэта страшна — беларуская мова.*

**Марыя МАЛЕВІЧ.**
**Фота Сяргея ГРАБОЎСКАГА.**

РЭЙТЫНГ

## Больш пазітыву!

*Беларусы апынуліся ў ніжняй частцы ўсясветнага рэйтынгу пазітыўных эмоцый — ніжэй за ўсіх суседзяў.*



Паводле дадзеных сусветнай сацыялагічнай службы Гэлапа, з усіх народаў свету найбольш пазітыўных эмоцый адчуваюць парагвайцы і венесуэльцы, а найменш — сірыйцы і іракцы.

Гэты рэйтынг "пазітыўнай эмацыйнасці" ў 143 краінах служба Гэлапа вызначыла, задаючы пытанні пра тое, ці адчувалі рэспандэнты якую-небудзь з названых пяці станоўчых эмоцый папярэдняга дня. Да станоўчых эмоцый былі залічаны: адчуванне, што вы добра адпачылі; адчуванне, што іншыя да вас ставіліся з пашанай; адчуванне задавальнення; рэагаванне на свет усмешкай і смехам; адчуванне, што вы нечаму цікаваму навучыліся або зрабілі нешта цікавае.

Як заўважае Радыё Свабода, сацыёлагі службы Гэлапа вызначылі "індэкс пазітыўных адчуванняў" для кожнага народа як працэнт адказаў "так" ад агульнай сумы адказаў.

Вось гэты індэкс для некаторых выбраных краін:

Парагвай — 86
Венесуэла — 86
Панама — 84
Коста-Рыка — 84
Калумбія — 83
Кувейт — 83
Польшча — 72
Латвія — 63
Літва — 55
Расія — 59
Украіна — 55
Азербайджан — 53
Арменія — 53
Беларусь — 53
Грузія — 53
Сербія — 52
Чарнагорыя — 52
Ірак — 47
Сірыя — 46

АКТУАЛЬНА

## Дарагое жыццё

З сённяшняга дня на 500 рублёў даражэе ***праезд у грамадскім транспарце*** Мінска. ***Талончык*** цяпер каштуе 2500 рублёў.

***Праязны білет*** на адзін від транспарту — 112.500, на чатыры віды — 202.500 рублёў.

На 30% даражэюць ***прыгарадныя перавозкі***.

Разам з базавай велічынёй павялічылася і **арэндная плата**.

Зноў падаражэлі **тытунёвыя вырабы**. Максімальныя рознічныя цэны на некаторыя маркі імпартных цыгарэт ад сёння выраслі на 3,7—4,8%. Па даных сайта Міністэрства па падатках і зборах, імпартуемыя цыгарэты марак Kent Convertibles, Kent HDi Blue, Kent HDi Silver, Kent iSwitch падаражэюць на 3,7% — з **13.500 да 14.000 рублёў** за пачак, Richmond Cherry, Richmond Premium 4, Richmond Superslim Air 4, Richmond Superslim Cherry — на 4,8% — з **21.000 да 22.000 рублёў**.

ЗА РУЛЁМ

## За балбатню па мабільніку — 260.000

*З сённяшняга дня значна павялічваюцца штрафы за парушэнне Правілаў дарожнага руху.*

Калі кіроўца і пасажыры не прышпілены рамянямі бяспекі падчас руху, атрымаюць альбо папярэджанне, альбо штаф да 130.000 рублёў.

За нясвоечасовую рэгістрацыю ці перарэгістрацыю альбо не ў час пройдзены тэхагляд транспартнага сродку — папярэджанне альбо да 260.000 штрафу.

Перавышэнне хуткасці ад 10 да 20 км/г пацягне на папярэджанне альбо штраф да адной базавай велічыні.

Перавышэнне хуткасці ад 20 да 30 км/г — **130.000—390.000** рублёў.

Перавышэнне хуткасці на 30 км/г і больш — **390.000—1.300.000** рублёў.

Перавышэнне хуткасці больш як на 20 км/г паўторна на працягу года — **650.000-1.950.000** рублёў альбо пазбаўленне вадзіцельскага пасведчання на тэрмін ад 3 да 12 месяцаў.

Размова па мабільным тэлефоне за рулём будзе каштаваць папярэджання альбо **да 260.000** рублёў.

Упраўленне транспартным сродкам у нецвярозым стане і адмова ад медыцынскага агляду — **1.950.000—4.550.000** рублёў з пазбаўленнем правоў на 3 гады.

Прыпынак або стаянка з парушэннем ПДР — папярэджанне альбо **130.000** рублёў, калі правапарушэнне здзейснена паўторна — **260.000**.

НА ЎСЯЛЯКІ ВЫПАДАК

## 300 тысяч заўсёды павінны быць у кашальку кіроўцы

Максімальная сума штрафу, якую, згодна з КаАП, можна заплаціць інспектару ДПС на месцы, — 260 тысяч рублёў. Усе сумы, якія перавышаюць дзве базавыя велічыні, выплачваюцца праз банк.

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

ІНІЦЫЯТЫВА

## Пятру Пракаповічу прапануюць «здаць героя»

*Анатоль Лябедзька і Сяргей Калякін лічаць несправядлівым прысуджэнне звання Героя Беларусі віцэ-прэм'еру Пятру Пракаповічу і заклікаюць чыноўніка адмовіцца ад узнагароды.*

*"Мы перажылі адну дэвальвацыю, і прыйдзе іншая, чарговае рабаванне народа. Пры гэтым і Лукашэнка застаецца на сваёй пасадзе, і Пракаповіч паранейшаму курыруе эканоміку",* — каментуе ініцыятыву старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька**.

Праз крэатыўную кампанію, адрасаваную персанальна Пракаповічу і Лукашэнку, палітыкі хочуць акцэнтаваць увагу людзей на неэфектыўнай фінансавай палітыцы.

*"У рэшце рэшт патрэбны сумленныя і справядлівыя выбары, каб выбіраць прэзідэнта, парламент, які прызначае прафесійны ўрад, у тым ліку кіраўніка Нацбанка",* — цытуе БелаПАН Лябедзьку.

Кампанія "Здай героя" будзе ў першую чаргу інфармацыйнай, сказалі палітыкі: *"Мы будзем запаўняць інтэрнэт-прастору, магчыма, зробім відэаролік, падрыхтуем адмысловы бюлетэнь".*



СТАЛІЦА

## Дзе будуць новыя станцыі мінскага метро?

*На выставе архітэктурных праектаў "Мінскметрапраект" паказалі эскізы сямі станцый трэцяй лініі сталічнага метро. Такім чынам, стала дакладна вядома, дзе ж яны будуць.*

Станцыя "Юбілейная плошча" будзе размешчана ў раёне перасячэння вуліц Сухой і Кальварыйскай, утворыць перасадачны вузел са станцыяй "Фрунзенская".

Станцыя "Плошча Францішка Багушэвіча", зразумела, будзе месціцца пад аднайменнай плошчай.

"Вакзальная" размесціцца ў раёне дыспетчарскай станцыі "Дружная". Перасадачны тунэль злучыць яе са станцыяй "Плошча Леніна".

Станцыя "Кавальская Слабада" — скрыжаванне вуліц Варанянскага і Жукоўскага.

"Аэрадромная" запраектавана на тэрыторыі аэрапорта Мінск-1.

Станцыя "Немаршанскі сад" з'явіцца на скрыжаванні вуліц Кіжаватава і Асіповіцкай, а "Слуцкі гасцінец" размесціцца на скрыжаванні вуліц Кіжаватава і Каржанеўскага.

НОЎ-ХАЎ

## ДАІ выдасць беларускім веласіпедыстам нумары

*У Брэсце веласіпедысты змогуць аформіць для свайго транспарту рэгістрацыйны нумар.*

Асноўная мэта — абарона "сталёвага каня" ад крадзяжоў. Рэгістрацыйны нумар будзе наносіцца на раму ровара па жаданні гаспадара. Акрамя таго, уладальніку будзе выдавацца спецыяльны сертыфікат з дадзенымі гаспадара, маркай ровара і рэгістрацыйным нумарам, заявіла начальнік аддзялення па агітацыі і прапагандзе ДАІ УУС Брэсцкага аблвыканкама **Наталля Сахарчук.**

Як паведамляе БелаПАН, выдаліць нумар з рамы, не пашкодзіўшы яе, немагчыма. Так што значна больш шанцаў знайсці такі ровар у выпадку крадзяжу.

Першыя ровары былі прамаркіраваны на мінулых выхадных падчас акцыі "Мы за бяспечныя дарогі!".

СЛЫШАЛИ?

## Вернули досрочную пенсию

***Александр Лукашенко подписал Указ №441 "О некоторых вопросах профессионального пенсионного страхования и пенсионного обеспечения".***

Как сообщает пресс-служба президента, в соответствии с документом устанавливаются дополнительные пенсионные гарантии работникам, занятым на работах с вредными условиями труда.

Предоставлено право на досрочную (льготную) пенсию из средств общей пенсионной системы лицам, занятым на вредных и тяжелых работах, которые до 1 января 2009 года (то есть до введения профессионального пенсионного страхования) отработали во вредных условиях труда не менее половины стажа, требуемого для назначения этой пенсии.

Работникам с вредными условиями труда, которые до 1 января 2009 года выработали менее половины требуемого стажа работы или вовсе не имеют такого стажа до указанной даты (соответственно, не приобретут право на досрочную (льготную) пенсию из средств общей пенсионной системы), предоставлено право выбора способа компенсации их занятости на вредной работе.

В частности, в период вредной работы можно сразу получать ежемесячную доплату к зарплате (в размере, определяемом работодателем, но не менее суммы взносов на профессиональное пенсионное страхование). В этом случае работник получит дополнительный текущий доход вместо права на профессиональную пенсию в будущем.

Либо можно выбрать профессиональное пенсионное страхование и в будущем получать досрочную или дополнительную профессиональную пенсию, сформированную за счет взносов работодателей на данное страхование. При этом для формирования более весомых профессиональных пенсионных сбережений работника указом предусмотрено с 1 января 2014 года увеличить тарифы взносов, уплачиваемых работодателями на профессиональное пенсионное страхование.

Указ вступает в силу с первого числа месяца, следующего за месяцем его официального опубликования, а пункт 2-й этого указа, предусматривающий увеличение тарифов взносов на профессиональное пенсионное страхование, — с 1 января 2014 года.

### В чем суть поправок?

Дело в том, что этих изменений в законодательство о пенсионном страховании Белорусский независимый профсоюз добивался неоднократно. На "Беларуськалии" были собраны подписи работников, обращения от имени профсоюзной организации были направлены главе государства, депутатам Палаты представителей и в Совет министров. Реакции не было, не поддержало инициативу и Министерства труда и социальной защиты. Но неожиданно в сентябре Белорусский независимый профсоюз получил официальный ответ, что предложения профсоюза поддержаны главой государства. И вот появился указ.

Референт председателя БНП Александр Довнар объяснил, что дают изменения в закон:

— До 2009 года согласно Закону о пенсионном обеспечении действовало правило, что люди, работающие во вредных условиях труда, имели право оформлять досрочную пенсию. Но с введением с 1 января 2009 года Закона о профессиональном пенсионном страховании эти правила были отменены, люди получили право оформлять пенсию только по персонифицированному пенсионному страхованию, при котором работодатель перечисляет на каждого работника определенную сумму. Людей, работавших во вредных условиях, новый закон ставил в положение нищих, потому что средств на их счетах не было накоплено.

Досрочные пенсии были отменены, и хоть ты 100 лет отработал под землей — оформлять пенсию ты будешь по новым правилам и, значит, получать будешь мизер. Принятый указ изменил эту ситуацию. Сейчас люди, выработавшие до 2009 года вредный стаж, могут оформлять пенсию по-старому.

К слову, в государственных СМИ комментировала изменения в законодательстве министр труда и соцзащиты Марианна Щеткина. Естественно, подчеркивая, что нововведения в пенсионном страховании улучшат ситуацию с пенсиями для тех, кто достаточно долго работал во вредных условиях.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
1 КАСТРЫЧНІКА 2013 г.

ВІНШУЕМ!

# Мечыслаў Грыб справіў «вяселле»

*На лецішча ў Ждановічы на 75-годдзе былога старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі з'ехаліся сваякі, сябры, паплечнікі і суседзі.*

*— Вы думаеце, дата прыемная?* — са смехам гаворыць Мечыслаў Іванавіч. — *Вось калі б было 30 ці 50 — зусім іншы быў бы настрой! Але гасцей сапраўды сабралася нямала. Прыехалі брат, сястра, усе з дзецьмі сваімі, сваты, мае дзеці, унукі, суседзі зайшлі павіншаваць ды сябры. Цэлае вяселле атрымалася!*

Тыя, хто да Ждановічаў не даехаў, віншавалі юбіляра па тэлефоне. Цікава, што самым першым (ажно а 8-й раніцы!) генералу Грыбу патэлефанаваў старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька.

*— Ён спяшаўся некуды ад'ехаць, але пажаданні выказаў*, — распавёў колішні старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі. — *Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) з нагоды майго юбілею сабрала пасяджэнне прэзідыума. Насамрэч было шмат віншаванняў. У тым ліку і ад савета ветэранаў МУС за подпісам былога міністра Віктара Піскарова.*

Нягледзячы на тое, што з 1994-га па 1996 год Мечыслаў Грыб фактычна быў кіраўніком краіны і пад яго наглядам была прынята Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, афіцыйныя ўлады не палічылі патрэбным узгадаць пра яго юбілей.

*— Мне было б складана прымаць такія віншаванні*, — прызнаўся палітык. — *Але ніякіх захадаў ад афіцыйных улад не было, і я не вельмі гэтым засмучаны.*

Абверг Мечыслаў Іванавіч і чуткі аб тым, што ў яго жыцці з'явілася новая дама сэрца. Яго жонка сышла з жыцця ў 2006 годзе і па сёння ў палітыка *"няма намераў пабрацца шлюбам"*.


Саннікаў з замежжа на юбілей Грыба не выбраўся…

Рэдакцыя "Народнай Волі" далучаецца да віншаванняў родных і блізкіх спадара Грыба і зычыць яму доўгіх гадоў жыцця і плённай працы!

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ПРО ЛЮБОВЬ

# «Он уходил, она молчала...»

*Нешуточные страсти разгорелись в интернете из-за любовного стихотворения, которое знают наизусть, читали или просто переписывали в блокноты тысячи девушек. Авторство легендарного стиха "Он уходил, она молчала..." до сих пор приписывают Цветаевой, Ахматовой, Друниной. А сегодня на рифмованные строки претендуют сотни других сочинителей из разных стран!*

*Однако, как оказалось, написала "Элегию" почти 40 лет назад белорусская поэтесса и драматург* ***Светлана Бартохова****.*



Сегодня у этого стихотворения новая волна популярности — его активно тиражируют с разными фотографиями в социальных сетях.

Кто-то пытался даже заработать на чужих стихах.

*"Оказывается, некто Екатерина С. в 2009 году зарегистрировалась с моим текстом на сайте syon.ru,* — рассказывала Бартохова в своем интернет-дневнике. — *Это биржа произведений, которая, кроме всего прочего, продает стихи для СМС по назначенной автором цене. Дама запросила "60—70 рублей — примерно 2 доллара без НДС" — как я понимаю, за каждое отдельное использование. Если учесть огромную популярность этих СМС у населения (о чем, например, свидетельствует и "Яндекс"), то можно представить, сколько моя предприимчивая "соавторша" заработала и еще заработает на своем воровстве..."*

На популярном сервере современной поэзии "Стихи.Ру" некоторые даже грозили Бартоховой судом. И когда дискуссия о том, кому все-таки принадлежит популярный стих, перешла все грани приличия, Светлана Бартохова отправилась в архив — за доказательствами.

*"Я сходила-таки в Белорусский государственный архив-музей литературы и искусства, нашла там журнал "Неман" с первой публикацией моей "Элегии" ("Он уходил, она молчала...), попросила снять копию и заверить ее. Что сотрудники архива и сделали — большое им спасибо",* — написала Светлана Павловна в своем обращении к плагиаторам.

— Я когда сама залезла в интернет и увидела всю историю этого стихотворения, у меня даже потемнело в глазах! — *рассказала "Народной Воле" Светлана Бартохова.* — Я даже и не предполагала, что такое возможно! Читала и не могла поверить! Вы видели, сколько там у меня соавторов? Самое интересное, что многие упрекали меня в том, что я у них украла это стихотворение.

**— На одном из сайтов читала возмущенный отклик какой-то дамочки, которая грозилась подать на вас в суд за клевету…**

— На сайте "Стихи.Ру" есть функция "*Написать автору*", и любой желающий может отправить мне письмо на электронную почту. Мне слали и угрозы, и оскорбления, обвиняли меня в клевете и воровстве...

Интернет лишил "Элегию" всего, кроме долголетней, странной и почему-то до сих пор не проходящей популярности. Он лишил ее настоящего автора, расплодив тем самым тьму плагиаторов и "переделывателей". Лишил названия, полного текста и, в конце концов, законного права когда-нибудь восстановить истину...

У этого стихотворения, кстати, две части. Но каждая из них существует как бы отдельно — многие почему-то думают, что это два разных стиха.

**— Помню, сама еще в школе старательно переписывала это стихотворение в специальную тетрадку. А в каком году оно было написано?**

— Опубликовано в 1979 году, а написано — где-то в 1977—1978 годах. Честно говоря, я уже не помню. И давно не пишу стихов. Однажды в момент отчаяния я просто сожгла все свои стихи и с тех пор больше этим не грешу...

**— Ого, и не жаль было?**

— Просто меня довели до такого состояния. Я понимаю, что это жест такой курсистки немного нервной... Но в то время у меня просто не было другого выхода. Сейчас мне не хотелось бы ворошить дела давно минувших дней...

**— Представляете, сколько девочек за эти годы выучили ваш стих наизусть?**

— Я сама удивилась — "Элегию", оказывается, знают в США, Израиле... Самое смешное, что и мужчины тоже присваивали ее авторство себе! И какая-то девушка мне даже написала: мол, как это к вам попало стихотворение моего отца?

Я и смеялась, и злилась...

**— У вас была какая-то личная история, которая вылилась в эти строки?**

— Ну конечно! В молодости ведь бывает и счастливая, и несчастливая любовь — всякая.

**— Ваша была счастливая или нет?**

— Сложно сказать, какая она была. Любовь, хоть это и болезнь, всегда счастье. Счастливая болезнь (*смеется)*. В каком-то порыве это было написано.

**— А мужчина, в которого вы тогда были влюблены, знает об этих стихах?**

— Нет.

А вообще, я и предположить не могла, что из моих стихов выйдет такая история! Но я рада, что закончила со стихами и ушла в драматургию. И даже немного жалею, что не сделала этого раньше. Сейчас я ни от кого не завишу, пишу — и меня ставят. Впрочем, это уже совсем другая история...

**Марина КОКТЫШ.**

## Из личного дела

*Светлана Бартохова родилась и выросла на Гомельщине, в семье учителей. Живет в Минске.*

*Окончила отделение поэзии Литературного института им. Горького (Москва). Работала в редакциях журналов "Родник" ("Крыніца"), "Неман", газеты "Вдохновение". Была создателем и главным редактором "Театральной газеты", главным редактором журнала "Личная жизнь".*

*Член нескольких творческих союзов, лауреат республиканских конкурсов драматургии, автор поэтических сборников.*

*Спектакль по пьесе Бартоховой "Поле битвы" уже не один год с успехом идет в Театре-студии киноактера.*

## КСТАТИ

Не исключено, что в ближайшее время по мотивам стиха Светланы Бартоховой "Он уходил, она молчала..." снимут короткометражный фильм. Во всяком случае с таким предложением к ней обратился выпускник киношколы им. Веры Холодной при Одесской киностудии. *"Ваше произведение меня очень вдохновило..."* — говорит он.

*Светлана Бартохова*

## Элегия



**1.**
*Он уходил, она молчала,*
*А ей хотелось закричать:*
*"Постой! Давай начнем сначала!*
*Давай попробуем*
*Начать!.."*

*И все-таки не закричала...*
*Он уходил...*
*Она молчала...*

*Он оглянулся у порога,*
*Свою решительность кляня.*
*Хотел ей крикнуть:*
*"Ради Бога,*
*Прости меня! Верни меня!.."*

*Не крикнул и не подошел...*
*Она молчала...*
*Он ушел...*

**2.**
*Так трудно первой бросить слово,*
*Когда решается судьба...*
*Вот я тебя встречаю снова,*
*От горькой нежности слепа.*

*Невесело и равнодушно*
*Ты прижимаешься к плечу...*
*И так тебе со мною душно,*
*И так плечо мое не нужно!..*

*Но ты молчишь...*
*И я молчу...*

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## Пра што Някляеў пісаў жонцы з турмы?

*Адказы на гэтае пытанне ёсць у кнізе "Лісты да Волі", якая выйшла на шведскай мове і днямі была прэзентавана на Міжнародным кніжным кірмашы ў Гётэборгу.*

"Прэзентацыя прайшла ў дзень адкрыцця кірмашу на стэндзе самай масавай і адной з найбольш папулярных шведскіх газет "Aftonbladet". Беларускага паэта і палітыка прадставіў еўрапейскім выдаўцам і чытачам былы пасол Швецыі ў Беларусі **Стэфан Эрыксан, —** паведамляе БелаПАН**. —** У шведскае выданне, акрамя вершаў і паэмы, напісаных Уладзімірам Някляевым у СІЗА КДБ, увайшлі яго лісты з турмы да жонкі Вольгі, якіх не было ў беларускім выданні кнігі".

Кніжны кірмаш у Гётэборгу — адзін з найбуйнейшых у Еўропе. Яго наведвальнасць за традыцыйныя чатыры дні работы складае не менш за 100.000 чалавек. Беларусь у гэтым годзе прадстаўлена на кірмашы кнігамі Уладзіміра Някляева і Святланы Алексіевіч.

АНОНС

## «Параджанава» вязуць у Мінск

*XX Міжнародны кінафестываль "Лістапад" адкрыецца фільмам, які намінаваны на "Оскар 2014" ад Украіны.*

Драма "Параджанаў" — гэта сумесны праект кінематаграфістаў Украіны, Грузіі, Арменіі і Францыі — краін, з якімі звязаны лёс рэжысёра Сяргея Параджанава. Фільм распавядае пра няпросты жыццёвы і творчы шлях майстра: вялікае кіно, канфлікт з савецкай таталітарнай сістэмай, турма, міжнароднае прызнанне...

Сусветная прэм'ера фільма адбылася летам 2013 года ў афіцыйнай праграме 48-га кінафестывалю ў Карлавых Варах. На Адэскім міжнародным кінафестывалі карціна была ўганаравана прызам "Золотой ДЮК" за лепшы ўкраінскі поўнаметражны фільм.

Галоўныя ролі ў біяграфічным фільме выконваюць сябра Параджанава французскі акцёр армянскага паходжання **Серж Аведзікян** і расійская актрыса **Юлія Перасільд**.

***Кінафестываль "Лістапад" адбудзецца ў Мінску 1—8 лістапада.***

ТЭНДЭНЦЫІ

## Беларусы сталі часцей жаніцца

*Колькасць выпадкаў скасавання шлюбу сёлета істотна знізілася.*

У студзені—жніўні на 1000 шлюбаў прыпадала 398 разводаў, а летась у такі самы перыяд — 568 разводаў, інфармуе belta.by са спасылкай на Белстат.

За першыя восем месяцаў гэтага года зарэгістравана амаль 58,1 тысячы новых шлюбаў, а гэта прырост у параўнанні з мінулым годам на 19,7%. У студзені—жніўні сёлета на 1000 жыхароў Беларусі прыпадала 9,2 шлюбу, а летась — 7,7.

ПА-ЗА СЦЭНАЙ

*Мікалай ПІНІГІН:*

# «Трэба ганарыцца людзьмі, якія ствараюць нацыянальную культуру!»

*Навошта замянілі ўсіх артыстаў у легендарнай "Паўлінцы"? Якія бізнесмены нясуць грошы ў тэатр? Ці праўда, што выпускнікі беларускай Акадэміі мастацтваў— неканкурэнтаздольныя? На гэтыя і іншыя пытанні днямі ў жывым эфіры на сайце belta.by адказваў мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Мікалай Пінігін. "Народная Воля" прапануе самыя цікавыя моманты гэтага анлайна.*



## Пра тэатральнае закуліссе

**— Мікалай Мікалаевіч, не так даўно міністр культуры паведаміў, што з 2014 года ў Купалаўскім тэатры будуць прымацца меры па павелічэнні ўласных даходаў, каб знізіць бюджэтнае фінансаванне. Ці азначае гэта, што білеты ў любімы многімі пакаленнямі мінчан тэатр падаражэюць?**

— Ідэю дзяржавы я разумею, але, каб перайсці на гэтую сістэму самафінансавання, білеты павінны каштаваць прыблізна мільён, а можа, у іншых выпадках і 1,5 мільёна беларускіх рублёў. Гэта азначае, што зала будзе пустая. Увогуле, я хачу сказаць, што ў цэлым свеце драматычныя тэатры фінансуюцца або дзяржавай, або недзяржаўнымі сродкамі. Але для апошняга неабходна ствараць умовы. Напрыклад, зніжаць падатковую нагрузку на бізнес. Трэба ствараць вельмі сур'ёзную сістэму недзяржаўнай падтрымкі тэатра.

Тэатр — гэта не шоу. Толькі мюзіклы ў Лондане, Берліне, Парыжы могуць акупляцца, таму што гэта бізнес. Людзі 20 гадоў запар іграюць адзін і той жа мюзікл, білеты на які каштуюць, напрыклад у Лондане, 100—200 фунтаў. Гэта бізнес, а ўсе сур'ёзныя драматычныя тэатры маюць ці значную дзяржаўную падтрымку, ці недзяржаўную, але для гэтага, паўтаруся, павінна быць створана сур'ёзная сістэма.

**— Да канца гэтага года плануецца перанесці ўсе спектаклі на асноўную сцэну. Колькі пастановак ужо адаптавана пад галоўную пляцоўку?**

— У нас адбываецца ўсё адразу: атрымалі тэатр, зараз асвойваем сцэнічнае абсталяванне — гук, святло, механіку сцэны... І адначасова іграем спектаклі — трэба ў год сыграць іх пэўную колькасць, ніхто з нас гэтых абавязкаў не здымаў. Адначасова ўводзім новыя спектаклі. Кожны месяц толькі два спектаклі можам увесці новыя. Зараз тры-чатыры новыя спектаклі ўведзены, яшчэ застанецца прыблізна чатыры, і будзе сфарміраваны ўвесь рэпертуар.

**— Ці дазваляеце вы акцёрам здымацца ў кіно? І ці хацелі б самі зняць фільм?**

— Я ўсіх артыстаў адпускаю здымацца, таму што на сённяшні дзень мы — драматычны гуртук пры кінастудыі ці пры рэкламных агенцтвах. На тыя заробкі, якія атрымліваюць нашы артысты, жыць немагчыма, таму яны бясконца працуюць дзесьці яшчэ. Я гэта падтрымліваю, адмяняю рэпетыцыі. Гэта выключна фінансавая праблема.

Што тычыцца мяне ў якасці рэжысёра, то была ідэя зняць "Каласы пад сярпом тваім". Гэта сур'ёзны фінансавы праект. Ён мог бы быць нацыянальным праектам, але мне трэба было яшчэ і на год сысці з тэатра, а гэта складаная рэч...

**— Больш за дзесяць гадоў вы былі рэжысёрам у пецярбургскім Вялікім драматычным тэатры імя Г.А.Таўстаногава, стажыраваліся ў Маскве і Парыжы. Ці ёсць кардынальныя адрозненні ў рабоце з беларускімі акцёрамі і акцёрамі з іншых краін? Дзе працаваць цікавей і лягчэй?**

— Лягчэй у Мінску ўсё ж такі. Я пачынаў у Купалаўскім тэатры, працаваў у ім з 1985 года. Ведаю трупу, мяне тут ведаюць. Дома і сцены дапамагаюць. Але ўсё ж такі артысты паўсюль аднолькавыя. Калі ты іх зацікавіш, то і праца будзе добрая.

Мне давялося працаваць з Алісай Фрэйндліх, Алегам Басілашвілі, Кірылам Лаўровым, Васілём Ланавым. Калі Уладзіміру Зельдзіну было 80 год, я ставіў для яго юбілейны вечар. Зараз яму 97 прыблізна, і, думаю, ён рыхтуецца 100-годдзе адзначаць, яшчэ кагосьці будзе запрашаць.

Так, давялося з сур'ёзнымі артыстамі працаваць, але я лічу, што ў Купалаўскім вельмі сур'ёзная трупа, цікавая, жывая.

## Пра прэм'еры

**— Як вы ацэньваеце абноўленую "Паўлінку", прэм'ера якой адбылася ўвесну на новай сцэне? Ці апраўдана было рашэнне замяніць практычна ўсіх акцёраў? Як рэагуе публіка на пастаноўку?**

— Я сам рабіў гэтае аднаўленне, і яно заключаецца ў тым, што былі новыя касцюмы пашыты, адноўлены дэкарацыі, і амаль што цалкам заменены склад артыстаў. Разумееце, людзям уласціва не маладзець. Калі маці Паўлінкі іграе актрыса, якой за 70 гадоў, напрыклад, а Паўлінцы пад 40 прыблізна — гэта не зусім правільна. Канешне, замянілі Паўлінку. Гэта натуральная з'ява. Я не ўмешваўся ў рэжысуру Льва Ліцвінава — не лічу гэта магчымым, таму што гэта спектакль-музей. Уся яго прыгажосць у тым, што гэта спектакль свайго часу — у такіх дэкарацыях і касцюмах, набліжаных да беларускага быту пачатку XX стагоддзя. Таму тое, што з'явілася, — не новая версія "Паўлінкі", а проста аднаўленне дэкарацый і акцёрскага складу. Спектакль ідзе з 1944 года. Я думаю, мы ледзь не адзіны тэатр, які трымае так доўга адзін і той жа спектакль.

**— Якія прэм'еры рыхтуе Купалаўскі тэатр у новым сезоне?**

— Першая прэм'ера гэтага сезона рыхтуецца па матывах твора Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш". Яна адбудзецца прыблізна ў студзені. Таксама да нас запрошаны рэжысёр з Санкт-Пецярбурга Анатоль Праўдзін, які будзе рабіць "Дон Жуана" Мальера. Мы даўно не звярталіся да сусветнай класікі, але гэта неабходна тэатру. І напрыканцы сезона мы выпусцім спектакль па п'есе сучаснага беларускага драматурга Зміцера Багаслаўскага. Пакуль няма беларускай версіі назвы, але ў рускім варыянце п'еса называецца "Тихий шорох уходящих шагов". Гэта цудоўная сур'ёзная п'еса! На жаль, зараз у нас малая сцэна таксама ідзе пад рэканструкцыю, ужо ёсць праект малой сцэны — там, дзе яна і была, на Энгельса, але год, а можа, яшчэ і больш рэканструкцыя будзе доўжыцца. Таму мы спектаклі малой сцэны спрабуем іграць на іншых пляцоўках, але новыя спектаклі ствараць на малой сцэне ўжо не можам.

**— Раскажыце, калі ласка, пра школу акцёрскага, рэжысёрскага і аператарскага майстэрства, якая адкрываецца на малой сцэне…**

— Мы зараз толькі пачынаем гэтым займацца. Спрабуем стварыць такую школу — акцёрскую, рэжысёрскую і аператарскую. Мы хацелі б, каб нашы артысты выкладалі пэўныя дысцыпліны. Гэта быў бы заробак для артыстаў, хаця б сціплы. Пад крылом тэатра пачне працаваць такая ўстанова. Можа, хтосьці з гэтых навучэнцаў зацікавіцца і потым пойдзе вучыцца ў Акадэмію мастацтваў. Такі намер ёсць, мы робім першы крок, але што з гэтага атрымаецца — пакуль не ведаю...

**— Творчасць якіх сучасных беларускіх драматургаў вы маглі б вылучыць? І ці плануеце папоўніць рэпертуар тэатра спектаклямі паводле іх п'ес?**

— Я ўжо казаў, што гэта Зміцер Багаслаўскі. Яшчэ мы супрацоўнічаем с Юліяй Чарняўскай. У гэтым сезоне і ў наступным. Рабочая назва п'есы — "Сірожа". Гэта сучасная беларуская п'еса, я дамовіўся з драматургам пра гэтую ідэю, але не буду расказваць падрабязнасцяў.

Не выключаю, што з'явяцца іншыя маладыя аўтары, тэатр адкрыты для іх. Аднак гэта не азначае, что ўсе яны будуць ставіцца ў Купалаўскім тэатры, таму што перш за ўсё я як мастацкі кіраўнік думаю пра тое, што патрэбна тэатру менавіта сёння, а не ўчора ці пазаўчора. Калі гэта супадае з маім уяўленнем аб сучаснай беларускай драматургіі — канешне, будзем ставіць. Падкрэсліваю: мы адкрыты для ўсіх маладых, прыходзьце, прыносьце свае працы — будзем іх разглядаць.

## Пра бізнес і акцёрскую прафесію

**— Ці ўдаецца тэатру прыцягваць прыватныя інвестыцыі? Ці ёсць у Беларусі мецэнаты, гатовыя ўкладаць грошы ў мастацтва?**

— Мецэнат, які захоча ўкладаць грошы ў мастацтва, павінен ведаць, па-першае, што ніхто не будзе перашкаджаць гэта рабіць. Па-другое, павінны існаваць пэўныя законы. Людзі павінны быць упэўнены, што дзяржава зацікаўлена ў гэтай падтрымцы. Сігнал павінен быць вельмі сур'ёзны. Мы спрабуем зараз стварыць апякунскую раду ў тэатры. Гэта першы крок, але ў нас пакуль што няма фундаменту ў заканадаўчай сферы, каб гэтым займацца.

**— Мікалай Мікалаевіч, ці згодны вы з меркаваннем, што ў Беларусі адбываецца дэградацыя акцёрскай школы, што выпускнікі нашай Акадэміі мастацтваў — неканкурэнтаздольныя? Як вы асабіста падбіраеце акцёраў?**

— Я сам вось ужо трэці год выкладаю, у мяне рэжысёрскі курс. З усімі дыпломнымі курсамі я знаёмлюся падчас вучобы, і мы імкнёмся браць да сябе лепшых артыстаў, наколькі гэта магчыма. Наконт дэградацыі — разумееце, справа ў тым, што ёсць таленавітыя людзі, на якіх не ўплывае ні час, ні сітуацыя, ні маленькія заробкі, таму яны заўсёды будуць таленавітыя. У такога чалавека так працуе мозг, што ён не можа быць, напрыклад, матэматыкам, фізікам ці вайскоўцам, ён будзе артыстам ці рэжысёрам. Але справа ў тым, што спачатку ідзе эканоміка, а потым мастацтва, спачатку фундамент, а потым усё іншае. Малады чалавек павінен зразумець, якая ў яго ёсць перспектыва. Зараз няма набору сур'ёзнага ні на акцёрскі, ні на рэжысёрскі факультэты, ніхто не хоча туды ісці. Вось у чым я бачу сур'ёзную праблему. Калі вы разумееце, што зробіце кар'еру і будзеце нармальна жыць, гэта можа стаць прафесіяй. Зараз гэта прафесіяй не з'яўляецца, хутчэй за ўсё гэта выключэнне. А таленавітыя людзі, безумоўна, ёсць.

## Пра асабістае

**— Раскажыце, калі ласка, пра сваю сям'ю.**

— Я не эстрадная зорка, каб расказваць пра сваю сям'ю. Жанаты, у мяне цудоўная жонка, мой сябар. Адна мая дачка — мастак па касцюмах у Маскве, скончыла Усерасійскі дзяржаўны ўніверсітэт кінематаграфіі. Зараз я ўжо дзядуля, у Маскве ў мяне ёсць ужо ўнук. Малодшая дачка вучыцца на першым курсе былога палітэха. Сын працуе аператарам у розных тэлевізійных кампаніях.

## Пра сваё

**— Чаму, на ваш погляд, у Беларусі вельмі мала ствараюць праграм, фільмаў пра нашых выдатных сучаснікаў? У адрозненне ад Расіі, дзе практычна кожны дзень як мінімум на адным з тэлеканалаў або дакументальны фільм, або ток-шоу, або перадача прысвечаны таму ці іншаму таленавітаму чалавеку. І яны выклікаюць вялікую цікавасць у гледачоў!**

— Зараз пачаў працаваць канал "Беларусь 3". Дзякуй Богу, што гэта ўвогуле адбылося, і дзякуй усім тым, хто да гэтага меў дачыненне. На гэтым канале шмат матэрыялаў па культуры, шмат фільмаў, таксама там дэманстравалі і нашы спектаклі. Але каналу патрэбна фінансаванне, пакуль з гэтым ёсць праблемы.

Калі весці гаворку пра беларускія таленты, у нас, канечне, ёсць шмат цікавых людзей у кожнай галіне мастацтва, шмат людзей, якімі можна ганарыцца. Але сёння, я думаю, мы больш ведаем замежных артыстаў, чым сваіх. А сваіх талентаў трэба ведаць, трэба ганарыцца людзьмі, якія ствараюць нацыянальную культуру, навуку і іншае. Калі нацыя ўшаноўвае сваіх творцаў, гэта робіцца паступовымі крокамі стварэння нацыянальнай дзяржавы.

**— Як вы лічыце, у чым галоўная задача нацыянальнага тэатра?**

— Вельмі важная задача тэатра ў тым, каб займацца свядомасцю беларусаў, каб нацыя стала нацыяй. А для гэтага патрэбна ведаць сваю гісторыю, нацыянальных геніяў, ставіць якасную літаратуру ў тэатры. Людзі будуць хадзіць не толькі выключна на "Паўлінку", таму што гэта ў школе праходзяць, а яшчэ і на іншыя нашы спектаклі і разумець, што ў гэтым тэатры будзе весціся сур'ёзная размова пра нашу гісторыю, менталітэт, пра тое, хто мы, адкуль мы і куды мы крочым. Вось гэта вельмі важна. Калі людзі будуць адчуваць неабходнасць у такой размове, думаю, наша задача будзе выканана.

Трэба ведаць, што калісьці была шляхта, сеймы. Дзяржаўныя канструкцыі могуць мяняцца. Аўстра-Венгрыі і Рымскай імперыі няма, але этнасы існуюць на гэтых землях, яны засвойваюць у сябе ўсё, што адбывалася да гэтага. Ствараецца такі дзіўны мікст пад назвай "дзяржава". Гэта цудоўна, што мы будзем ведаць і польскую, і рускую, і беларускую мовы, гэта толькі ўзбагачае этнас, культуру, народ.

Трэба не адштурхоўваць, а браць лепшае, што было, і не паўтараць памылак. На нацыянальны тэатр ускладаецца сур'ёзная місія. Не ведаю, ці адпавядаем мы ёй. Калі мы трапляем у гэтую нішу, я вельмі рады, калі не — шкада...

ВНЕ ИГРЫ

# На дне

*Хоккеисты минского "Динамо" занимают в своей конференции предпоследнее место (без учета вчерашней вечерней игры). И удивительного в этом абсолютно ничего нет. Как говорят: за что боролись — на то и напоролись.*




Очень точно об этом сказал, отвечая на вопросы читателей, главный редактор "Прессбола" Владимир Бережков:

*"Было бы противоестественно, если бы после стольких лет дуракаваляния результат сейчас вдруг взял и нарисовался. Кто сегодня играет в Риге? Букартсы, Джериньши, Индрашисы, Лавиньши, Мейи, Ниживии, Порейсы, Пуяцы, Редлихсы, Рекисы, Сотниексы, Упитисы, Цибульскисы и прочие Ципулисы. Семь легионеров — столько же, сколько, учитывая Платта и Лаланда, сейчас в Минске. У латышей забивают Павловс, Индрашис, Джериньш — свои воспитанники, которым давали дорогу и год, и два, и три назад. Они умели работать, терпеть и жить по средствам. А мы в это время пилили чужие радости, забавлялись дорогими игрушками. Поделом. Сегодня Латвия играет в Сочи и идет в тройке западной конференции КХЛ. А мы только начинаем свой путь. И дойдем до высот соседей, если хватит терпения".*

Впрочем, не хотелось бы сегодня бросать камни в огород "Динамо", а уж тем более в чем-то упрекать главного тренера "Зубров" Александра Андриевского. Уж он-то точно не виноват в том, что хоккей находится там, где он находится. Это ж не с его подачи в хоккее у нас легализовали "легкие деньги". И многие, как говорят, урвать успели!

Сейчас Андриевскому дают кредит доверия — и это правильно. "Динамо" — на дне турнирной таблицы, но главкому министр спорта и туризма Александр Шамко доверяет:

— *Мое личное мнение, что те неудачи, которые есть у "Динамо", не должны являться поводом для отставки Андриевского. Невозможно так менять тренерский штаб каждый раз. Если хорошо сыграли, значит, никто ничего не говорит, а когда есть череда неудач — сразу все набросились. Надо помочь, выработать какие-то решения и даже поддержать, потому что иначе мы стабильности не добьемся. Судить нужно по результатам сезона.*

Посмотрим, что в перспективе нарисуется у нашего хоккея. Главное, чтобы высокие покровители этого вида спорта не вмешивались в естественный процесс развития. Потому что практика такова: как только они за что-нибудь берутся — это "что-нибудь", как правило, разваливается.

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

МОЗАИКА

## *Лидеры дружно проиграли*

*25-й тур футбольного чемпионата страны среди команд первой шестерки ознаменовался поражениями лидеров.*

Борисовский БАТЭ проиграл дома "Торпедо-БелАЗ" (Жодино) — 0:1, а солигорский "Шахтер" — с таким же счетом в Минске "Динамо".

**Положение команд:** БАТЭ — 54 очка (25 игр), "Шахтер" — 52 (25), "Динамо" Мн — 43 (25), "Торпедо-БелАЗ" — 34 (25), "Гомель" — 34 (24), "Неман" — 30 (24).

Во второй шестерке "Днепр" (Могилев) уступил на своем поле новополоцкому "Нафтану" — 0:2. Накануне бобруйская "Белшина" выиграла в Бресте у "Динамо" — 1:0, а в матче "Минск" — "Славия" (Мозырь) была зафиксирована ничья 1:1.

**Положение команд:** "Белшина" — 37, "Минск" — 29, "Динамо" (Бр) — 27, "Днепр" — 26, "Нафтан" — 24, "Славия" — 20.

## *У Азаренко проблемы со здоровьем?*

*Вчера на турнире ВТА "China Open" (призовой фонд — более 5 млн 185 тыс. долларов), который проходит в Пекине, белорусская теннисистка Виктория Азаренко проиграла в первом же матче немецкой спортсменке Андреа Петкович — 4:6, 6:2, 4:6.*

Напомним, на прошлой неделе Азаренко неожиданно проиграла на турнире в Японии Уильямс-старшей. После матча Азаренко поведала, что у нее были проблемы со здоровьем. Возможно, теннисистка не восстановилась до сих пор.

## *Началась продажа билетов на хоккей*

*Вчера началась продажа билетов на чемпионат мира по хоккею 2014 года, который пройдет в Минске с 9 по 25 мая.*

На первом этапе реализации билетов начнется продажа сертификатов на абонементы на все матчи мирового первенства, запланированные на каждой из арен, сообщает БЕЛТА.

На 28 октября 2013 года намечено начало реализации билетов на матчи с участием отдельных национальных сборных команд. Последними поступят в продажу билеты на отдельные матчи, в том числе на четвертьфиналы, полуфиналы и финал. Это произойдет 25 ноября.

## *Наталия АНУФРИЕНКО: «Я не против наших товаров, но, извините, что можно купить белорусского?»*

*Игрок женской сборной Беларуси по баскетболу Наталия Ануфриенко против введения пошлины на шопинг в 100 долларов.*

Об этом спортсменка заявила в интервью goals.by.

**— Как тебе инициатива собирать по 100 долларов с носа за выезд за границу?** — поинтересовались у спортсменки.

— Я в шоке! Тем более что в ближайших планах как раз значилась поездка в Польшу за телевизором. Там и коврики есть классные!..

**— Кстати, на спортсменах можно неплохо заработать.**

— Я совсем не против наших товаров. Но, извините, что можно купить белорусского?

НАВЕЛА

*Вячаслаў ВОЛЬСКІ*

# Склезень

Надвячоркам, калі скончыў сваю работу на лецішчы, Павел Пятровіч пайшоў на праменад на лясную алею. Яна пачыналася адразу за былой калгаснай пасекай, якая ў час перабудовы была "прыватызавана" "новымі беларусамі". І на месцы пасекі, як грыбы пасля дажджу, выраслі з дзясятак зайздросных з выгляду дач. Адразу ж суседзі ахрысцілі гэтую прывабную мясціну "царскім сялом".

Сама алея нагадвала прыгожы тунэль. Старыя дрэвы, якія абступалі яе з абодвух бакоў — дубы і сосны, уверсе спляталіся сваім галлём, ствараючы цудоўны шацёр, пад якім захоўвалася прахалода, напоўненая густым водарам, нават у спякотны летні дзень. Таму алея даўно стала любімым месцам адпачынку дачнікаў. Яна пралегла праз увесь лясок, амаль з вярсту. А заканчвалася алея гаем далёкаўсходняй піхты, высачэзных, пэўна, 40-метровых дрэў. Старажылы сцвярджалі, што яшчэ да вайны гэтую дзялянку піхты заклалі вучоныя-леснікі. Яна тут добра прыжылася, і цяпер кожнае яе дрэва на ўліку. Выводзіла ж алея да шырокага і неагляднага поля мясцовай гаспадаркі. Звычайна вясною яно засявалася збажынаю або кукурузай і таму радавала вока дачнікаў сваёй сакавітай зелянінаю.

Асабліва падабаліся Паўлу Пятровічу прагулкі па алеі ў восеньскія дні, калі дачнікі вывозілі сваіх дзяцей-школьнікаў у горад і алея набывала спакойны і ўтульны выгляд, без людской мітусні.

Тым надвячоркам Павел Пятровіч яшчэ здалёк заўважыў на алеі кабету з малым хлапчуком. Яны ўжо вярталіся ад поля. Ішлі марудна, а малы ўвесь час віхляўся вакол маці. Калі наблізіліся да Паўла Пятровіча, ён з пачуццём жалю акінуў хваравітага на выгляд хлапчука. У таго былі худзенькія ручкі і ножкі, каленкі ўсе ў сіняках. На носе ў яго сядзелі акуляры з круглымі шкельцамі, якімі звычайна выпраўляюць касавокасць. Павел Пятровіч прыгадаў, што такіх кволых дзяцей калісь у іх вёсцы называлі склезнямі. Гэту пару Павел Пятровіч сустрэў на алеі ўпершыню. Яму падумалася, што, пэўна, гэтая маладая маці зняла ў кагосьці лецішча, каб падлячыць на свежым паветры малога, а той, калі яны параўняліся з Паўлам Пятровічам, сумеўся і схаваўся за матчын падол.

Але ўжо да канца прагулкі Павел Пятровіч не мог чамусьці пазбавіцца ад думкі пра гэтага склезня. І чым больш ён разважаў пра кволае хлапчынё, тым мацней яму зайздросціў. Зайздросціў і яго будучаму лёсу, і будучаму жыццю. "Гэта яшчэ нічога не значыць, што ён у дзяцінстве такі нягеглы, — думаў Павел Пятровіч. — Але ж з гадамі ён стане моцным і прыгожым юнаком. І вельмі важна тое, што ён будзе жыць зусім у новай Беларусі, якую ўжо ніхто не будзе называць апошняй дыктатурай Еўропы. Да народа вернуцца тыя традыцыі, якія вызначалі яго спакон вякоў: добрасуседства, павага і згода. Знікнуць манкурты, і ніхто не будзе дзяліць людзей на "чэсных" і "нячэсных". І, магчыма, гэты хлапчук пасля стане студэнтам парыжскай Сарбоны і будзе з гонарам расказваць сваім сябрам-аднакашнікам аб тым, што калісь, у сярэднявеччы, яго радзіма — Вялікае Княства Літоўскае — дала Еўропе самы дэмакратычны Статут". Значыць, усё залежыць ад таго, разважаў далей Павел Пятровіч, у якую эпоху і пры якой уладзе нарадзіцца і будзе жыць чалавек, такім будзе і яго лёс. Сам Павел Пятровіч на схіле веку асабіста на сваё жыццё не мог паскардзіцца. Было ў ім рознае: і штосьці добрае, і штосьці прыкрае. Бо прайшло яно пад знакам сонечнага зацьмення. Але ж да горычы балюча тое, што марнуюцца яго апошнія гады не па асабістай віне... А яны ўжо ніколі не вернуцца.

***

## *З радаслоўя аўтара*

Нарадзіўся я на мяжы зімы і вясны (27 лютага) у 1935 годзе ў пасёлку Вольск Чачэрскага раёна на Гомельшчыне. Пасёлак гэты заснаваў мой бацька, які першым у 30-я гады мінулага стагоддзя выехаў з вялікай вёскі Навухавічы, як кажуць, у чыстае поле і там пасяліўся са сваёй сям'ёй, у якой на той час ужо было трое дзяцей: дзве дачкі і сын (мяне тады яшчэ не было на гэтым свеце). Пасля на цаліну, дзе выдаваліся надзелы (па гектары зямлі на сям'ю), падаліся малодшы брат бацькі, які пасяліўся побач, а насупраць — пабудавалі хату сястры.

Гадоў праз пяць там утварыўся пасёлак з паўсотні хат, які назвалі ў гонар яго арганізатара і стваральніка — Вольск. Па цяперашніх замашках новых беларусаў я мог бы яго назваць сваім радавым памесцем. Але ж...

Па сельскім занятку мой бацька быў садоўнікам. Духмянай антонаўкай з калгаснага саду, які ён даглядаў (а гэта пад 300 гектараў), ласаваліся жыхары Чачэрска і Гомеля, Ленінграда і Мурманска, куды вывозіліся яблыкі. Невыпадкова ж ён быў з вырашчаным ім ураджаем садавіны аж трохразовым удзельнікам ВДНГ у Маскве і адзначаны яе медалямі.

Аднак цяпер гэтага цудоўнага кутка прыроды на Гомельшчыне, на вялікі жаль, ужо няма: у 1986 годзе ён быў засыпаны чарнобыльскім пылам, нягледзячы на тое, што ад той няшчаснай Прыпяці да яго больш як сотня вёрст. А яго жыхары разбрыліся па белым свеце, хто дзе знайшоў сабе прыстанішча.

Калі я завітаў на малую радзіму, я яе не пазнаў: ні хат, ні той шырокай прыгожай вуліцы, ні квітнеючых садоў. Суцэльная пустэча. Дзе-нідзе адны камяніцы ды цагляныя падмуркі. А навокал — бур'ян. У той страшэннай роспачы ў мяне было толькі адно суцяшэнне, што да гэтай катастрофы не дажыў мой бацька. Ён адышоў на той свет за дзесяць гадоў да яе. Інакш яго сэрца не вытрымала б такой трагедыі ўсяго стваральнага яго жыцця. І разарвалася б на часткі.



**Бацькі: Ціхан Сямёнавіч і Ефрасіння Андрэеўна.**

Што ж датычыць майго лёсу, дык ён выкладзены ў зборніку "Пад знакам сонечнага зацьмення", у якім змешчана і навела "Склезень". Для чытачоў "Народнай Волі" скажу: доўгі час працаваў у "Звяздзе", выдавецтве. Цяпер на заслужаным адпачынку, але пяро не выпускаю з рук.



**Увесь клан: дзеці, унукі і блізкія родзічы каля лецішча ў Воўкавічах. Вячаслаў Вольскі — чацвёрты злева.**

СОРАМ!

# Каму патрэбны такія чэмпіёны?

*Бронзавы прызёр Алімпіяды-2000 цяжкаатлет Генадзь Аляшчук публічна абвясціў: ён ведаў аб тым, што ў свой час прымаў допінг-прэпараты.*




Першы раз беларускага штангіста за ўжыванне забароненага прэпарата дыскваліфікавалі на 2 гады ў 2003 годзе. Праз тры гады чарговая дыскваліфікацыя — на гэты раз пажыццёвая. Сёння **Генадзь Аляшчук** працуе ў Бабруйску намеснікам старшыні гарадской структуры БФСА "Дынама", і яму чамусьці не сорамна на ўвесь свет расказваць аб сваім *"прычашчэнні"* да допінгу.

*"Безумоўна, я ведаў, што прымаю допінг,* — распавёў былы алімпіец goals.by, калі пачаў успамінаць пра першую дыскваліфікацыю. — *Што прымаў? Таблеткі. Усё вырашаецца на ўзроўні трэнер—спартсмен. Урачы ў нас наогул нічога не вырашаюць. У зборнай іх роля зводзіцца да таго, каб выбіваць вітаміны, пратэін і гэтак далей, прысутнічаць на выпадак траўмы і праводзіць медагляды. Але ніяк не размеркаванне прэпаратаў".*

**— А вы не баяліся, што вас могуць злавіць?** — запытаўся карэспандэнт.

— Усе баяцца, — шчыра адказаў Аляшчук. — Гэта апраўданая рызыка. Але калі казаць пра апошнюю дыскваліфікацыю, то мяне проста зрэзалі... Ходзяць чуткі, што мяне хтосьці са сваіх...

Такі вось у нас "чысты" спорт. І каму пасля гэтага патрэбны такія медалі і такія чэмпіёны?

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ШАШКІ

## Міжнародныя грасмайстры

9 ліпеня мы інфармавалі, што ў першынстве Еўропы двойчы чэмпіён Беларусі Яўген Кандрачэнка з Гомеля заваяваў бронзавы медаль. Сёння прыемна дадаць: улічваючы вынікі чэмпіянату кантынента, ФМЖД прысвоіла яму ганаровае званне міжнароднага грасмайстра (мгр) па шашках-64. Новыя эпізоды з партый, дасланыя ім у рэдакцыю, таксама сведчаць аб яго моцнай і якаснай гульні:

1 (бліцтурнір 2010 года). **Белыя** (Ю.Кірылаў, мгр): a1, a3, a5, b4, c1, e1, e3, f2, f4, g1 (10). **Чорныя** (Я.Кандрачэнка): b6, b8, c3, c5, c7, d6, d8, f6, h2, h6, h8 (11). Тут чорныя нечакана правялі камбінацыю. Больш карысна знайсці яе самім, не чакаючы нашых адказаў.

2.**Белыя** (Я.Кандрачэнка): a5, b2, c1, c3, d2, d4, e1, e3, f2, f4, g1 (11). **Чорныя** (М.Абацыеў): a3, a7, b6, c7, d6, d8, e7, g5, g7, h4, h6 (11). Чэмпіянат свету 2006 года па бліцу: 1. de5 ef6 2. cd4 dc5 3. bc3 cb4 4. ed6! 5. a:c7 6. c:c7x.

3.**Белыя** (А.Дашкоў, мгр): a1, b2, c1, c5, d2, d4, e1, f2, f4, g1, g3 (11). **Чорныя** (Я.Кандрачэнка): a5, a7, b8, c7, d8, e7, f6, f8, h4, h6, h8 (11). Бліц, 2009: 1. de3? fg5 2. cb6 a:c5 3. d:b6 ba7x.

Самае высокае спартыўнае званне атрымаў і мінчанін Васіль Грабенка — за поспехі ў міжнародных спаборніцвах па шашачнай кампазіцыі. З іх у 2-м першынстве свету па складанні эцюдаў-100 заняў 4-е прызавое



месца ў агульным заліку. Пазнаёмцеся і з яго творчасцю:

4.**Белыя**: 7, дамкі 11, 48 (3). **Чорныя**: 18, 19, 20, 22, 28, 35, 38 (7). 5-е заліковае для кваліфікацыі месца ў катэгорыі B (71,5 ачка па змесце): 2 (19-23ABC), 17, 49 (33D) 34(28E) 1/7(39) 6(33) 32(24) 11(29F) 6(40G) 328, 35 (34H) 44x. A(32) 25 (40I) 35 (45) 37, 40, 46x. B(18-23) 15 (40) 47 (45) 31 (33J) 38 (50) 39/44x. C(20-24) 17, 49 (22) 32, 18 (23) 15/20 (40) 33, 50x. D(24) 42 (32K, 24) 20/15x. E(25) 48 (22LM) 38, 29/45x. F(30) 23 (40) 45 (38) 50 (42) 34, 47x. G(34) 23 (350NO) 238, 35 (39) 49x. H(33) 30 (38) 48x. I(37) 4(42) 15 (48P) 7/11 (26) 42, 7-34x. J(50) 45 (28-33) 29, 50x. Астатнія варыянты застаюцца за вамі.

5. **Белыя**: дамкі 19, 20, 26, 31 (4). **Чорныя**: 34, дамкі 17, 21 (3). 6-е заліковае месца ў катэгорыі C (58 ачкоў): 19-24 (40AB) 15 (40-44) 27, 50x. A(34-39) 15 (32CVp1) 12 (5D) 48 (44) 40, 10, 25, 39 (45) 50x. B(3) 40/45, 48 (14) 20, 404x. C(49) 12/3 (394) 21, 27, 50x. D(14) 35 (43) 21(48E) 154x. E(49) 18, 7, 154x. Vp1(44) 27, 50x.

## Рашаем разам

**"Адборачны да першынства свету"** (С.Садоўскі—М.Кадзеснікаў): 1. cd6? hg3!! 2. f:d4 c:e1x. 2. d:h6 g:c3x.

**"Заслугоўваюць увагі"** (Ю.Голікаў): **№ 5** — 1. hg5 2. cd2 3. cb4 4. f:a5 fe3 5. gf2! 6. ad8 7. d:a5x.

**Мікалай ГЛАДКІ.**



ШАХМАТЫ

## Решите задачу
*В.Сердобинский*

**Белые:** Кра1, Ле1, Лg7, Ch2, Ch5, Ke2, Kh7, пп. b6, c4 (9).

**Черные:** Кре6, Cc8, Ce7, Kf2, пп. b7, c5, c6 (7).

**Мат в 2 хода.**

Предлагаем вниманию читателей старинную задачу российского проблемиста. Попробуйте найти ее решение. Свои ответы присылайте по адресу: **220030, Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты "Народная Воля", "Шахматы".**



## Сверьте ответы

Решение композиций, опубликованных в "Народной Воле".

**Задача М.Эйве: 1.Фd6!**

**Композиция Н.Акимова: 1.Са4!** Цугцванг. 1...Крс3 2.Ф:а5х, 1...Крс5 2.Са3х, 1...с3 2.Фb5х, 1...Кр:а4 2.Фс4х.

**Двухходовка В.Сычова: 1.Фе3!** Угроза 2.Фс3х. 1...Kb1 2.Кс4х, 1...Ф:g3 2.К:f7х, 1...Ф:е4 Kg4х, 1...К:е4 2.Сс3х.

Задача Я.Добрусского: 1.Лd6! Угроза 2.Ле6х. 1...Кр:d6 2.Сс7х, 1...С:d6 2.d4х, 1...Лf6 2.Лd5х, 1...Лf5 2.Фd4х, 1...Лf4 2.Фе6х.

Свои ответы прислали тт.Колодко (Жодино), Ананич (Волковыск), Долгополов (Гомель), Быстров (Витебск), Михайлов (Пинский район), Костюк, Литвинов, Михнюк, Муха, Шарко, Юрлов (все из Минска).

## В.Крамник — обладатель Кубка мира

В норвежском приморском городе Тромсе прошел розыгрыш Кубка мира по шахматам. В нем приняли участие 128 шахматистов, в основном обладатели гроссмейстерских званий. В борьбе за почетный трофей и две путевки на турнир претендентов участвовали практически все сильнейшие шахматисты мира, за исключением, понятно, самого обладателя шахматной короны Вишванатана Ананда (Индия) и его соперника в предстоящем матче норвежца Магнуса Карлсена, которые ведут подготовку к решающему поединку. В Тромсе соревнования проводились по так называемой нокаут-системе, участники проводили между собой матчи с выбыванием проигравшего. В результате в финал вышли два россиянина: экс-чемпион мира Владимир Крамник и чемпион России Дмитрий Андрейкин. Одержав победу в первой партии, Крамник последующие три встречи завершил вничью, что принесло ему победу в матче и Кубок мира. В турнире принимал участие лишь один из белорусских шахматистов. Минчанин гроссмейстер Сергей Азаров по жребию получил уже в первой встрече в соперники одного из сильнейших российских гроссмейстеров Алексея Дреева. Тем не менее матч завершил вничью. Лишь в дополнительных партиях в быстрые шахматы Азаров уступил и выбыл из борьбы.

**Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск,
вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная:
тэл.
(017) 3286871.
Тэл./факс
рэкламнага
аддзела: (017)
3286904, 3286906
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info**

ISSN 2071-9647

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік
і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч
СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, правы ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 30.09.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26470 экз. Заказ №.4319**